Слоўнік прызначаны для студэнтаў, якія вывучаюць педагогіку на беларускай мове, і мае на мэце дапамагчы ім авалодаць беларускай педагагічнай тэрміналогіяй.

Друкуецца па рашэнню рэдакцыйна-выдавецкай Рады інстытута.


Складальнік С.С.Кацэвіч

Рэдактар В.М.Емельяновіч

Мастацкае афармленне В.С.Кацэвіч

Адказны за выпуск В.М.Крукаў








Педагагічныя тэрміны — гэта словы або словазлучэнні, якія з'яўляюцца назвамі поўных паняццяў — лагічна аформленых думак аб педагагічных працэсах, з'явах, ідэях. Педагагічная тэрміналогія як сукупнасць, сістэма тэрмінаў складалася і развівалася на працягу многіх стагоддзяў у цеснай сувязі з развіццём педагагічнай практыкі і тэорыі і адрозніваецца вялікай разнастайнасцю. У сувязі з абмежаваным аб'ёмам слоўніка, у яго ўключаны толькі найбольш ужывальныя агульнапедагагічныя тэрміны, якімі абазначаны асноўныя паняцці педагогікі (выхаванне, навучанне, адукацыя, развіццё); тэрміны тэорыі выхавання (маральнага, эстэтычнага, працоўнага, фізічнага); тэрміны тэорыі навучання (урок, метад, прынцып навучання, пазнавальная актыўнасць); гісторыка-педагагічныя (класна-ўрочная сістэма навучання, педацэнтрызм, педалогія); наменклатурныя або школазнаўчыя (атэстацыя настаўніка, метадычная работа ў школе, навуковая арганізацыя педагагічнай працы).

Вядома, што педагогіка як навука не магла развівацца адасоблена ад іншых навук, без цеснага ўзаемадзеяння з імі, у выніку чаго педагагічная тэрміналогія значна ўзбагацілася за кошт тэрмінаў, запазычаных з філасофіі, псіхалогіі, фізіялогіі і другіх галін ведаў. Улічваючы гэта, мы ўключылі ў слоўнік, акрамя ўласна педагагічных тэрмінаў, найбольш часта ўжывальныя філасофскія (светапогляд, экзістэнцыялізм, неатамізм, прагматызм), псіхалагічныя (памяць, успрыняцце, пачуццё, дынамічны стэрэатып, мысленне), анатама-фізіялагічныя і медыцынскія (нервовая сістэма, акселерацыя, шкілетна-мускульная сістэма, лагапедыя) і іншыя тэрміны.

Зразумела, што ад слоўніка нельга патрабаваць глыбокага раскрыцця тэрмінаў, таму мы імкнуліся да таго, каб нашы тлумачэнні

былі дастатковымі для разумення перш за ўсё асноўнага іх сэнсу.

Выданне гэтага слоўніка абумоўлена наступнымі акалічнасцямі.

Па-першае, у навучальных дапаможніках па педагогіцы, у публікацыях, змешчаных у перыядычным педагагічным друку, розныя аўтары нярэдка ў адны і тыя ж педагагічныя паняцці ўкладваюць розны сэнс, што дэзарыентуе студэнтаў, ускладняе разуменне імі праграмнага матэрыялу па педагогіцы.

Па-другое, слоўнік у нейкай меры кампенсуе адсутнасць падручнікаў і даведнікаў па педагогіцы, выдадзеных на беларускай мове, і дапаможа студэнтам авалодаць беларускай педагагічнай тэрміналогіяй.

Тэрміны падаюцца ў форме адзіночнага ліку назоўнага склону, за выключэннем тых выпадкаў, калі яны ўжываюцца толькі або пераважна ў множным ліку(правілы для вучняў, асновы навук, адзіныя педагагічныя патрабаванні і інш.)

Каб аблегчыць студэнтам карыстанне слоўнікам, у канцы яго падаецца невялічкі перакладны руска-беларускі слоўнік, у які ўвайшлі не ўсе, а толькі тыя педагагічныя тэрміны, якія ў рускай і беларускай мовах маюць зусім рознае гучанне.



## А

АБАГУЛЬНЕННЕ – адзін з працэсаў пазнання, які складаецца з выдзялення ў думках прыкмет, уласцівасцяў прадметаў і з'яў і аб'яднання іх на аснове абагуленасці істотных рыс.

АБАГУЛЬНЕННЕ перадавога педагагічнага вопыту – выдзяленне з канкрэтных метадычных, арганізацыйных, навучальна-выхаваўчых рашэнняў своеасаблівай агульнай ідэі, якая можа стаць асновай эфектыўнага вырашэння тых ці іншых педагагічных задач.

АДАБРЭННЕ – метад выхавання, які ўяўляе сабою прызнанне станоўчай ацэнкі паводзін, учынкаў, якасцяў вучняў з боку педагога, бацькоў.

АДЗІНАЯ ПРАЦОЎНАЯ ШКОЛА – школа, даступная для дзяцей пэўнага ўзросту, якая дае ім незалежна ад грамадскага і маёмаснага становішча іх бацькоў агульнаадукацыйныя веды, працоўныя ўменні і навыкі.

АДЗІНСТВА ТЭОРЫІ І ПРАКТЫКІ – адзін з вядучых прынцыпаў дыдактыкі, які патрабуе арганічнай сувязі тэарэтычнага матэрыялу (сістэмы паняццяў, ідэй, заканамернасцяў, законаў аб акаляючым свеце) з жывым вопытам чалавека, з патрабаваннямі грамадства.

АДЗІНЫЯ ПЕДАГАГІЧНЫЯ ПАТРАБАВАННІ – агульная лінія ў навучальна-выхаваўчай рабоце, выпрацаваная педагагічным калектывам, узгодненасць дзеянняў школы, сям'і і грамадскасці.

АДЗНАКА – колькасная ацэнка ведаў, выражаная ў балах.

АДУКАЦЫЯ агульная – працэс і вынік авалодання асновамі навук, неабходнымі для фарміравання навуковага светапогляду і важнейшых якасцяў асобы.

АДУКАЦЫЯ базавая – адзіны дзяржаўны мінімум агульнай адука-

цыі, разлічаны на ўзбраенне вучняў асновамі ведаў аб прыродзе, грамадстве, чалавеку, якія неабходны для атрымання больш высокага ўзроўню адукацыі.

АДУКАЦЫЯ матэрыяльная – тэорыя адукацыі, якая ўзнікла ў 40-50 гг. XIX ст. Асноўны крытэрый адбору навучальнага матэрыялу, з пункту гледжання прыхільнікаў гэтай тэорыі, – ступень яго карыснасці, прыгоднасці да жыцця, у выніку чаго тэарэтычныя веды прыносіліся ў ахвяру практычным уменням і навыкам.

АДУКАЦЫЯ фармальная – тэорыя адукацыі (канец XVIII – пачатак XIX ст.), прыхільнікі якой лічылі галоўным не аб'ём і нават не якасць ведаў, а тое, у якой меры ў працэсе навучання адбываецца гімнастыка памяці, мыслення, уяўлення, для чаго лічылі найбольш эфектыўным вывучэнне замежных моваў, завучванне на памяць урыўкаў з літаратурных твораў.

АДЧУВАННЕ – адлюстраванне ў свядомасці чалавека некаторых пачуццёвых якасцяў прадметаў акаляючай рэчаіснасці.

АКСЕЛЕРАЦЫЯ – паскоранае анатама-фізіялагічнае і псіхічнае развіццё чалавека (павелічэнне вагі, памераў цела, удасканаленне псіхічных уласцівасцяў і якасцяў: успрымання, памяці, мыслення і інш.)

АКТЫВІЗАЦЫЯ пазнавальнай дзейнасці – такая арганізацыя пазнавальнай дзейнасці, пры якой навучальны матэрыял становіцца прадметам актыўных разумовых і практычных дзеянняў кожнага вучня.

АКТЫЎ вучнёўскі – найбольш дзейныя вучні, якія адыгрываюць вядучую ролю ў жыцці і дзейнасці калектыву класа, школы.

АКТЫЎНЫЯ формы і метады навучання – формы арганізацыі і ме-



тады навучання, якія разлічаны на калектыўнае, публічнае абмеркаванне праблем, актыўнае ўзаемадзеянне настаўніка і вучняў, жывы абмен думкамі і накіраваны на выпрацоўку правільнага разумення школьнікамі зместу вывучаемага матэрыялу, іх навуковага светапогляду, свядомасці і паводзін.

АЛГАРЫТМІЗАЦЫЯ навучання – та[illegible] ін арганізацыі навучання, пры якой вучні авалодваюць сістэмай дзеянняў, лагічна ўзаемазвязаных і выкананых у строгай паслядоўнасці (алгарытм рашэння пэўнага тыпу задач, выканання фізічнага практыкавання, расстаноўкі знакаў прыпынку ў складаных сказах і інш.)

АЛІГАФРЭНАПЕДАГОГІКА – галіна спецыяльнай педагогікі, у якой разглядаюцца пытанні навучання і выхавання, карэкцыі недахопаў развіцця разумова адсталых дзяцей.

АНАЛІЗ – лагічны прыём і метад даследавання, з дапамогай якога адбываецца расчляненне цэлага на характэрныя для яго састаўныя часткі і вывучэнне кожнай часткі паасобку як элемента аднаго цэлага.

АНАЛІЗ урока – расчляненне ўрока на асобныя элементы, з якіх ён складаецца, і ацэнка кожнага з іх у адпаведнасці з патрабаваннямі дыдактыкі, школьнай практыкі.

АНАЛОГІЯ – падабенства ў якіх-небудзь адносінах паміж прадметамі ці з'явамі.

АНАМАЛІЯ – адхіленне ад норм, ад агульнай заканамернасці, напрыклад, у развіцці арганізма чалавека.

АНАМАЛЬНЫЯ дзеці – дзеці з тымі ці іншымі адхіленнямі ў фізічным або псіхічным развіцці, якія патрабуюць навучання і выхавання ў адпаведных умовах. У аснове адхіленняў ляжаць прыродка-

ныя або набытыя дэфекты мовы,слыху,зроку,разумовая адсталасць.

АПАВЯДАННЕ – метад вобразнага маналагічнага выкладу навучальнага матэрыялу; шырока прымяняецца у выкладанні розных прадметаў пры вывучэнні тэм і пытанняў,што змяшчаюць галоўным чынам фактычныя звесткі(апісанне з'яў прыроды,грамадскага жыцця,асвятленне гісторыі таго ці іншага навуковага адкрыцця,тэхнічнага вынаходніцтва,паведамленне біяграфічных звестак пісьменнікаў,вучоных і г.д.)

АСАЦЫЯЦЫЯ– адлюстраванне у свядомасці чалавека заснаванай на нервова-псіхічных працэсах сувязі паміж асобнымі уяўленнямі, думкамі,пачуццямі,калі вобразы прадметаў або з'яў ці думак аб іх выклікаюць уяўленні пра нешта падобнае да іх.

АСНОВЫ НАВУК у школе – важнейшыя факты,паняцці,законы,заканамернасці навук,адабраныя для вывучэння у школе у адпаведнасці з грамадскімі патрабаваннямі і узроставымі асаблівасцямі вучняу.

АСОБА – суб'ект з уласцівымі яму індывідуальнымі рысамі і якасцямі.

АСУДЖЭННЕ – метад выхавання,які уяўляе сабою адмоўную ацэнку учынкаў і дзеянняў асобы.

АСЯРОДДЗЕ геаграфічнае – сукупнасць прадметаў і з'яў прыроды(зямная кара,вада,раслінны і жывёльны свет,клімат і г.д.), якія складаюць умовы,неабходныя для існавання і развіцця асобнага чалавека і грамадства увогуле.

АСЯРОДДЗЕ сацыяльнае – акаляючыя чалавека грамадскія,матэрыяльныя і духоўныя умовы яго існавання,фарміравання.і развіцця.

АТЭСТАЦЫЯ настаўнікаў – характарыстыка прафесійнай падрых-



тоўкі настаўнікаў(якасць валодання сваім прадметам і методыкай яго выкладання,уменне арганізаваць і праводзіць выхаваўчую працу з дзецьмі); праводзіцца спецыяльнай атэстацыйнай камісіяй, якая прысвойвае ім пэўную катэгорыю.

АЦЭНКА паспяховасці – вызначэнне ступені,узроўню засваення вучнямі ведаў,уменняў у адпаведнасці з патрабаваннямі навучальнай праграмы.

## Б

БАЦЬКОЎСКІ камітэт школы – орган бацькоўскай грамадскасці, з дапамогай якога забяспечваецца пастаянная і цесная сувязь школы з бацькамі вучняў, а таксама вырашаюцца гаспадарчыя і навукова-выхаваўчыя пытанні.

БАЦЬКОЎСКІ сход – адна з асноўных форм сувязі школы з бацькамі вучняў і прапаганды педагагічных ведаў сярод бацькоў.

БЭЛ-ЛАНКАСТЭРСКАЯ сістэма навучання – сістэма арганізацыі і метадаў навучання у пачатковай школе,пры якой добра падрыхтаваныя вучні,звычайна старэйшага узросту,з'яўляліся памочнікамі настаўніка і пад яго кіраўніцтвам праводзілі заняткі з астатнімі вучнямі.Сваю назву атрымала ад прозвішча англійскіх педагогаў А.Бэла і Дж.Ланкастэра,якія незалежна адзін ад другога абгрунтавалі гэты метад навучання. Асобныя элементы гэтай сістэмы атрымалі шырокае распаўсюджанне у школах многіх краін на пачатку XIX ст. у тым ліку і у царкоўна-прыхадскіх і міністэрскіх школах Расіі.

БЕСПРЫТУЛЬНАСЦЬ дзіцячая – адсутнасць у дзяцей і падлеткаў прытулку,пастаяннага месца жыхарства у выніку страты сям'і або адарванасці ад яе,што прымушае іх жыць без догляду і выха-

вання,калі эб іх не паклапоціцца дзяржава.

БІХЕВІЯРЫЗМ – напрамак у амерыканскай псіхалогіі XX ст.,прыхільнікі якога адмауляюць свядомасць як прадмет псіхалогіі і зводзяць псіхіку да розных формау паводзін,пад якімі яны разумеюць сукупнасць рэакцый арганізма на стымулы знешняга асяроддзя.

БРЫГАДНА-ЛАБАРАТОРНЫ метад навучання – такі метад арганізацыі заняткау,калі вучні падзяляліся на брыгады на чале з брыгадзірам; настаунік давау кожнай брыгадзе заданне,разлічанае на некалькі тыдняу або нават на месяц, і у адпаведны час брыгадзір рабіу справаздачу аб выкананні заданні,а брыгада атрымлівала пэуную адзнаку.

Такі падыход адмоуна адбівауся на якасці ведау вучняу,прыводзіу да абязлічанасці,ураунілаукі.Гэты метад шырока прымяняуся у савецкай школе у 20-я – пачатку 30-х гадоу XX ст.

## В

ВЕДЫ – вынік пазнання(уяуленні,паняцці) людзьмі прадметау і з'яу рэчаіснасці,разуменне і захаванне у памяці фактау,правіл,законау,заканамернасцяу,ідэй навук аб прыродзе,грамадстве,чалавеку.

ВЕДЫ вербальныя – адарваныя ад жыцця,дагматычныя веды.

ВІД навучання – сукупнасць падыходау,прыёмау,сродкау, што адлюстроуваюць пэуную канцэпцыю навучання: тое ці іншае разуменне мэт,сутнасці,законау,заканамернасцяу навучання і развіцця асобы.

ВІКТАРЫНА школьная – пазнавальная гульня,якая шырока прак-



тыкуецца у школах на уроках і пазакласных выхавауча́х мерапрыемствах,вечарынах,раніцніках,занятках прадметных і тэхнічных гуртк оу.У аснове гульні – вусныя або пісьмовыя пытанні і адказы на іх.Віктарыны могуць быць літаратурнымі,музычнымі,навукова-тэхнічнымі,спартыунымі,геаграфічнымі і інш. або змешанымі.Яны спрыяюць развіццю пазнавальных інтарэсау вучняу, іх эрудыцыі, знаходлівасці.

ВУЧНЁУСКІ камітэт школы(вучкам) – грамадскі выканаучы орган вучнёускага калектыву,які ажыццяуляе кіраунiцтва яго бягучымі справамі і, у першую чаргу, навучальнай дзейнасцю.

ВУЧЭННЕ у школе – мэтанакіраваная дзейнасць вучняу па засваенню імі сістэмы ведау,уменняу і навыкау,якая можа быць суэіральнай,рэпрадуктыунай і творчай.

ВЫКЛАДАННЕ у школе – дзейнасць настауніка,накіраваная на узбраенне вучняу сістэмай ведау,уменняу,навыкау,фарміраванне іх светапогляду,свядомасці,паводзін,пачуццяу.

ВЫСНОВА – разумовае дзеянне, у выніку якога з некалькіх меркаванняу атрымліваецца новы вывад.

ВЫХАВАННЕ – мэтанакіраваны педагагічны працэс фарміравання і усебаковага развіцця асобы.

ВЫХАВАННЕ інтэрнацыянальнае – працэс фарміравання і развіцця пачуццяу дружбы паміж народамі,павагі да людзей усіх нацыянальнасцяу.

ВЫХАВАННЕ маральнае – мэтанакіраванае фарміраванне маральнай свядомасці,маральных пачуццяу і выпрацоука звычак маральных паводзін.У маральным выхаванні можна вылучыць наступныя звенні: а)маральная асвета,у ходзе якой фарміруецца маральная свядомасць

(пазнанцi,меркаваннi,iдэалы); б)арганiзацыя жыцця i дзейнасцi дзяцей,што забяспечвае пераход ведаў у перакананнi,выхаванне пачуццяў,увасабленне маральных ведаў,перакананняў,якасцяў у канкрэтныя справы i ўчынкi,у звычкi правiльных паводзiн.

ВЫХАВАННЕ прававое – сiстэма арганiзаванага педагагiчнага ўздзеяння на асобу з мэтай засваення прававых,сацыяльных нормаў i адносiн,фармiравання установак паводзiн,свядомага актыўнага выканання сваiх абавязкаў перад грамадствам.

ВЫХАВАННЕ працоўнае – практычная,псiхалагiчная i маральная падрыхтоўка падрастаючага пакалення да працоўнай дзейнасцi.

ВЫХАВАННЕ разумовае – працэс, у ходзе якога вучнi атрымлiваюць трывалыя тэарэтычныя веды,узбройваюцца прыёмамi iнтэлектуальнай дзейнасцi,логiкай разважання,развiваюць памяць,уяўленне.

ВЫХАВАННЕ свабоднае – плыннe ў педагогiцы 2-й палсвы XIX – пачатку XX ст., прыхiльнiкi якога выступалi за ўсебаковае развiццё асобы без усякiх абмежаванняў, за адмаўленне ад iснуючай практыкi выхавання,заснаванай на падаўленнi асобы,жорсткай рэгламентацыi ўсiх бакоў жыцця i паводзiн дзяцей.

ВЫХАВАННЕ фiзiчнае – адзiн з кампанентаў усебаковага развiцця асобы:форм i функцый арганiзма чалавека,удасканаленне фiзiчных здольнасцяў,умацаванне здароўя,падрыхтоўка вучняў i моладзi да працоўнай дзейнасцi i абароны бацькаўшчыны.

ВЫХАВАННЕ экалагiчнае – сiстэма мэтанакiраваных уздзеянняў на свядомасць людзей з мэтай выхавання ў iх любвi i беражлiвых адносiн да прыроды.

ВЫХАВАННЕ эканамiчнае – мэтанакiраванае ўздзеянне на асобу чалавека,якое дапамагае яму правiльна арыентавацца ў эканамiчным жыццi грамадства, дасягнуць асабiстага матэрыяльнага



дабрабыту.

ВЫХАВАННЕ эстэтычнае – мэтанакiраванае фармiраванне эстэтычных густаў,патрэб,успрымання з'яў рэчаiснасцi i твораў мастацтва, жадання i магчымасцяў тварыць прыгожае.

ВЫШЭЙШАЯ НАВУЧАЛЬНАЯ УСТАНОВА (ВНУ) – навучальная ўстанова (унiверсiтэт,акадэмiя,iнстытут,кансерваторыя i iнш.),якая ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялiстаў вышэйшай квалiфiкацыi для розных галiн народнай гаспадаркi, навукi,культуры,а таксама навукова-педагагiчных кадраў.

Г

ГАРМАНIЧНАЕ развiццё асобы – працэс,якi забяспечвае ўзгодненасць формы i зместу аб'екта педагагiчнага ўздзеяння,адносна поўнае развiццё яго разумовых здольнасцяў,фiзiчных магчымасцяў, духоўных патрэб.

ГЕНIЯЛЬНАСЦЬ – самая высокая ступень здольнасцi чалавека, якая складае новую эпоху ў пэўнай галiне навукi,тэхнiкi,мастацтва i мае гiстарычнае значэнне для развiцця грамадства.Такiм, напрыклад,было значэнне М.Капернiка, Г.Галiлея,М.В.Ламаносава, I.Н'ютана, Ч.Дарвiна,I.П.Паўлава ў прыродазнаўстве,У.Шэкспiра, Г.Гётэ,А.С.Пушкiна,Л.М.Талстога ў гiсторыi мовы i лiтаратуры, В.Моцарта,Л.Бетховена,П.I.Чайкоўскага ў развiццi музыкi.

ГIГIЕНА дзяцей i падлеткаў (школьная гiгiена) – навука аб мерах i сродках аховы здароўя i павышэння працаздольнасцi дзяцей i падлеткаў.

ГIМНАЗIЯ – сярэдняя агульнаадукацыйная ўстанова,звычайна з яскрава выражаным гуманiтарна-фiлалагiчным напрамкам.У царскай

Расіі класічная гімназія была адзінай сярэдняй навучальнай установай, якая забяспечвала права паступлення ва універсітэт. У ёй амаль 40 % усяго часу, прадугледжанага навучальным планам, адводзілася на вывучэнне лацінскай, старажытна-грэчаскай і другіх іншаземных моваў.

Зараз у сістэме народнай асветы Рэспублікі Беларусь адраджаецца гэты тып навучальных установаў.

ГІМНАЗІЯ жаночая – сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная установа, прызначаная для навучання і выхавання дзяўчынак, якая не забяспечвала магчымасці паступіць ва універсітэт.

ГІМНАСТЫКА – від спорту; сістэма спецыяльна падабраных фізічных практыкаванняў і метадычных прыёмаў, якія прымяняюцца з мэтай умацавання здароўя і усебаковага фізічнага развіцця чалавека.

ГІПОТЭЗА – навукова абгрунтаванае дапушчэнне, меркаванне, выпучанае з мэтай тлумачэння прычын, уласцівасцяў або існавання прадметаў ці з'яў рэчаіснасці.

ГІСТОРЫЯ педагогікі – галіна педагогікі, якая вывучае развіццё педагагічнай тэорыі, практыкі выхавання і навучання, сістэмы народнай адукацыі розных краін у розныя гістарычныя эпохі.

ГРУПА падоўжанага дня – група школьнікаў малодшага або сярэдняга ўзросту, якая пад кіраўніцтвам настаўніка да або пасля заняткаў на працягу 4-5 гадзін штодзённа рыхтуе хатнія заданні або арганізавана праводзіць свой вольны час, калі іх бацькі заняты працай.

ГУЛЬНЯ дзелавая – форма дзейнасці, якая імітуе тыя ці іншыя практычныя сітуацыі; адзін з метадаў актывізацыі працэсу навучання. Па сваіх мэтах гульні дзелавыя падзяляюцца на навучаль-



ныя, з дапамогай якіх іх удзельнікі авалодваюць адпаведнымі уменнямі і навыкамі, сацыяльным вопытам; атэстацыйныя, якія выкарыстоўваюцца для выяўлення ведаў, уменняў, атрыманых у працэсе навучання, працы; даследчыя, накіраваныя на пошук новых або апрацоўку і ўдасканаленне ўжо вядомых прыёмаў дзейнасці.

У залежнасці ад мадэлюемай сферы дзейнасці і складу ўдзельнікаў можна выдзеліць дзелавыя кіраўніцкія, выканаўчыя, педагагічныя і іншыя гульні.

ГУЛЬНЯ ралявая – гульня, у якой дзіця атаясамлівае сябе з дарослымі, узнаўляе іх функцыі і адносіны паміж імі у спецыяльна створаных умовах, пры гэтым рэальныя прадметы могуць замяняцца цацкамі, рознымі сімваламі, умоўна прынятымі замест іх. Сярод ралявых гульняў вылучаюць прадметныя, сюжэтныя, інтэлектуальныя, рухомыя.

ГУМАНІЗАЦЫЯ адукацыі – накіраванасць навукова-выхаваўчага працэсу у навучальных установах на фарміраванне чалавека, здольнага на добрыя учынкі і справы, які умее спачуваць, перажываць чужое гора, паважаць чалавечую годнасць і г.д.

ГУМАНІТАРЫЗАЦЫЯ адукацыі – такі змест адукацыі, у якім перавага аддаецца грамадскім навукам: філасофіі, гісторыі, грамадазнаўству, філалогіі, мастацтву.

ГУТАРКА – у дыдактыцы – адзін з актыўных метадаў навучання, пры дапамозе якога вучні, адказваючы на пытанні настаўніка, набываюць новыя веды, паўтараюць і замацоўваюць пройдзены матэрыял; гутарка этычная шырока выкарыстоўваецца у маральным выхаванні як адзін з дзейсных метадаў педагагічнага ўздзеяння на школьнікаў. Гутарка выкарыстоўваецца таксама як метад навуковага даследавання, з дапамогай якога можна атрымаць патрэбную інфармацыю

ад аднаго чалавека,некалькіх або многіх людзей.

## Д (ДЖ,ДЗ)

ДАКУМЕНТАЦЫЯ школьная – запіс звестак, якія датычаць навучальна-педагагічнай і навучальна-вытворчай дзейнасці школы,стану яе матэрыяльнай базы,асабовага складу настаўнікаў і вучняў,планы работы школы,педагагічнай рады,метадычных аб'яднанняў і г.д.

ДАЛЬТОН-ПЛАН – сістэма арганізацыі навукова-выхаваўчай працы ў школе,пры якой вучні не звязваюцца агульнакласнай дзейнасцю, а кожны з іх паасобку атрымлівае ў настаўніка заданне на дзень і парады па арганізацыі сваёй працы.Асаблівая ўвага ў Дальтон-плане ўдзялялася ўліку вынікаў працы вучняў,які вёўся з дапамогай складанай сістэмы ўліковых картак. Гэтая сістэма атрымала сваю назву ад горада Далтона (ЗША,штат Масачусэтс), дзе яна была шырока выкарыстана ў пачатку XX ст., а ў 20-я гады XX ст. была запазычана савецкай школай у выглядзе брыгадна-лабараторнага метаду.

ДАСЛЕДЧЫ метад навучання – метад,з дапамогай якога так арганізуецца пазнавальная дзейнасць вучняў,каб яны маглі самастойна вырашыць пазнавальныя задачы,выкарыстоўваючы пры гэтым параўнанні,аналогіі,аналіз,сінтэз,гіпотэзы і іншыя прыёмы і метады навуковага даследавання.

ДАСТУПНАСЦЬ навучання – дыдактычны прынцып,які прадугледжвае суадноснасць задач,метадаў,формаў навучання зместу і аб'ёму ведаў,узроставым асаблівасцям і магчымасцям вучняў.

ДЗЕЙНАСЦЬ чалавека – важнейшая форма праяўлення актыўных адносін да акаляючай рэчаіснасці.Да працоўнай,навучальнай,спартыўнай,грамадскай і другой дзейнасці чалавек пабуджаецца патрэ-



бамі,інтарэсамі,схільнасцямі,пачуццямі,усведамленнем абавязку, адказнасці, якія выступаюць у якасці яе матываў.

ДЗЕНЬ АДЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРЭЙ школы – дзень,калі бацькі вучняў могуць свабодна наведваць урокі,выхаваўчыя мерапрыемствы,знаёміцца з дзейнасцю школы,а настаўнікі – абменьвацца вопытам сваёй працы.

ДЗІЦЯЧАЯ спартыўная школа – пазашкольная навучальна-выхаваўчая ўстанова,якая рыхтуе з асяроддзя вучняў здаровых,фізічна развітых людзей,юных спартсменаў.

ДЗІЦЯЧЫ сад – установа для грамадскага выхавання школьнікаў, што дае жанчынам магчымасць удзельнічаць у вытворчай і грамадскай працы.

ДЗІЦЯЧЫЯ яслі – установа грамадскага выхавання дзяцей ад I да 3 гадоў.

ДОТЫК – адлюстраванне ў свядомасці чалавека ўласцівасцяў прадметаў знешняга асяроддзя з дапамогай скурных адчуванняў.

ДЫДАКТЫКА – галіна педагогікі, у якой распрацоўваецца тэорыя навучання і адукацыі;раздзел педагогікі, у якім разглядаюцца змест,метады,прыёмы,прынцыпы,заканамернасці,формы арганізацыі навучання.

ДЫДАКТЫЧНЫ матэрыял – спецыяльны від дапаможнікаў,картак,якія выкарыстоўваюцца настаўнікамі з мэтай актывізацыі пазнавальнай дзейнасці і эканоміі часу.

ДЫДАКТЫЧНЫ прынцып – кіруючае палажэнне,якое ляжыць у аснове ўсяго працэсу навучання і вызначае ўсе яго бакі:змест,метады,формы,арганізацыі(навуковасці,нагляднасці,свядомасці і актыўнасці,сістэматычнасці і паслядоўнасці,сувязі з практыкай, уліку ўзроставых і індывідуальных асаблівасцяў вучняў,трыва-

ласці ведаў,выхоўваючага характару навучання і інш.)

ДЫКЦЫЯ – выразнае вымаўленне слоў,гукаў і гукаспалучэнняў, адзін з важных элементаў культуры мовы.

ДЫНАМІЧНЫ СТЭРЭАТЫП – устойлівая сістэма часовых нервовых сувязяў(умоўных рэфлексаў),якая забяспечвае пэўную інтэнсіўнасць і паслядоўнасць рэакцый,што ўтвараецца пры дастаткова працяглых уздзеяннях сістэмы адных і тых жа раздражняльнікаў.

ДЭФІНІЦЫЯ – кароткае навуковае вызначэнне якога-небудзь паняцця.

Ж

ЖАДАННЕ – псіхічны стан, які з'яўляецца адным са звенняў валявога працэсу. У адрозненне ад цягі,жаданне выяўляе наяўнасць больш ці менш выразнага ўяўлення аб прадмеце,на які яно накіравана,стымулюе яго,адлюстроўвае перажыванні,якія ператвараюцца ў думку аб магчымасці чымсьці валодаць або нешта ажыццявіць.

ЖУРНАЛ класны – кніга пэўнай формы для рэгістрацыі наяўнасці вучняў у класе,уліку наведвання імі заняткаў,паспяховасці. У класным журнале таксама даюцца антрапаметрычныя звесткі аб вучнях,іх сацыяльным паходжанні,аб тым,дзе і кім працуюць іх бацькі.

ЖЭСТ – выразны рух рук,цела,які адлюстроўвае псіхічны стан чалавека,яго эмоцыі,пачуцці.

З

ЗААХВОЧВАННЕ – дапаможны метад выхавання,які ўзмацняе ўздзеянне асноўных метадаў,замацоўвае станоўчыя ўчынкі і дзеянні чалавека (адабрэнне,пахвала,падзяка,каштоўны падарунак і інш.)



ЗАБУЧВАННЕ – рад паўторных спроб запомніць матэрыял;пазнавальная дзейнасць,накіраваная на авалоданне ведамі, уменнямі і навыкамі.

ЗАГАРТОЎКА арганізма – павышэнне супраціўляльнасці арганізма чалавека да неспрыяльных цеплавых змен акаляючага асяроддзя,выхаванне здольнасці хутка і без значных функцыянальных адхіленняў прыстасоўвацца да рэзкіх атмасферных і тэмпературных хістанняў.

ЗАДАННЕ хатняе – састаўная частка працэсу навучання,арганізаваная настаўнікам з мэтай паглыблення і замацавання ведаў вучняў,атрыманых імі на ўроках,а таксама падрыхтоўкі іх да ўспрымання новага матэрыялу.Пры вызначэнні зместу і аб'ёму дамашняга задання настаўнік улічвае неабходнасць яго сувязі з урокам,наяўнасць элементу навізны,а таксама магчымасці вучняў.

ЗАДАТКІ – прыроджаныя анатама-фізіялагічныя і псіхічныя асаблівасці арганізма чалавека,на якіх грунтуюцца яго здольнасці, схільнасць да той ці іншай дзейнасці.

ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ развіцця,выхавання,навучання – устойлівая,істотная і паўторная сувязь у развіцці,выхаванні,навучанні,рэалізацыя якой дапамагае дабіцца эфектыўных вынікаў у фарміраванні асобы.

ЗАКОН педагагічны – педагагічная катэгорыя,якая адлюстроўвае істотныя,неабходныя,устойлівыя сувязі паміж з'явамі педагагічнай рэчаіснасці,кампанентамі педагагічнай сістэмы (закон аб цэласнасці і адзінстве навучання і выхавання,абумоўленасці вынікаў навучання,выхавання,развіцця характарам дзейнасці настаўнікаў і вучняў і г.д.)

ЗАМАЦАВАННЕ ведаў,уменняў,навыкаў – адзін з этапаў пазнавальнай дзейнасці,які забяспечвае рэалізацыю педагагічнага пры-

нцыпу трывалага засваення ведаў і ўяўляе сабою не простае іх узнаўленне ў той якасці, у якой яны былі набыты вучнямі першапачаткова,але і істотнае паглыбленне.

ЗАПАМІНАННЕ – адзін з асноўных працэсаў памяці,які зводзіцца да замацавання адчуванняў, вобразаў,успрыняцця,уяўлення, думак, дзеянняў,перажыванняў.Фізіялагічнай асновай запамінання ў чалавека з'яўляецца замацаванне часовых нервовых сувязяў у кары галаўнога мозгу ў выніку сумеснай дзейнасці двух сігнальных сістэм,пры гэтым другая сігнальная сістэма(славесныя сувязі)выконвае вядучую ролю ў памяці людзей.

ЗВЫЧКА – сфарміраванае дзеянне,выкананне якога пры пэўных абставінах стала патрэбай чалавека.Фізіялагічнай асновай звычкі з'яўляецца дынамічны стэрэатып.

ЗДОЛЬНАСЦЬ – псіхафізіялагічная уласцівасць чалавека,якая фарміруецца на аснове задаткаў і забяспечвае атрыманне максімальна высокага выніку пры самых малых затратах часу,сілы,намаганняў.

ЗЛУЧЭННЕ НАВУЧАННЯ З ВЫТВОРЧАЙ ПРАЦАЙ – ідэя,якая ўзнікла з узнікненнем прамысловай вытворчасці. Адны́мі з першых гэтую ідэю выказалі сацыялісты-утапісты Т.Мор,Т.Кампанэла(ХУІ-ХУП ст.),а пазней Ш.Фур'е,Р.Оўэн,І.Песталоцці,Ж.Русо і інш. Яны разглядалі ідэю злучэння навучання з вытворчай працай як аснову ўсебаковага развіцця асобы.

ЗМЕСТ адукацыі – сістэма ведаў,практычных уменняў і навыкаў, авалоданне якімі забяспечвае развіццё разумовых і фізічных здольнасцяў, фарміраванне светапогляду, маральнай свядомасці і паводзін.



ЗОНА БЛІЖЭЙШАГА РАЗВІЦЦЯ – узровень разумовага развіцця,які характарызуецца тым,што вучань можа выканаць заданне настаўніка толькі з яго дапамогай.

І

ІДЭАЛ маральны – уяўленне чалавека аб маральна дасканалай асобе,актыўная пабуджальная сіла да дзеяння,вядучы матыў паводзін.Маральныя ідэалы могуць быць канкрэтнымі (увасабленне ў канкрэтнай асобе,літаратурным героі),сінтэтычнымі (калі адна якасць пераймаецца ад аднаго чалавека,другая – ад другога) і абагульненымі (ідэалізацыя пэўнай якасці чалавека безадносна да канкрэтнага носьбіта яе).

ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ – распазнаванне каго – або чаго-небудзь у выніку атаясамлівання з кім- або чым-небудзь.

ІЛЮЗІЯ – памылковая думка,скажонае ўяўленне аб чым-небудзь, або калі жаданае выдаецца за сапраўднае.

ІНДУКЦЫЯ – адзін з метадаў пазнання,выснова,на падставе якой робіцца агульны вывад як вынік руху пазнання ад прыватнага да агульнага (ад састаўных частак прадмета да прадмета цалкам, ад элементаў сістэмы да яе цэласнасці).

ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ПАДЫХОД да дзяцей – арганізацыя педагагічнага ўздзеяння на дзяцей з улікам рыс іх характару,якасцяў асобы, умоў жыцця,стану здароўя,настрою і г.д.

ІНТАНАЦЫЯ – сукупнасць гукавых сродкаў мовы,павышэнне і паніжэнне тону голасу пры вымаўленні,якія адлюстроўваюць тыя ці іншыя пачуцці,валявыя імкненні гаворачага.

ІНТАРЭС – актыўная пазнавальная накіраванасць чалавека на той ці іншы прадмет ці з'яву рэчаіснасці,звычайна звязаная са

станоўчымі эмацыянальна афарбаванымі адносінамі да пазнання аб'екта.

ІНТУІЦЫЯ – праніклівасць,разуменне ісціны без лагічнага яе вытлумачэння,заснаванае на папярэднім вопыце.

ІНТЭЛЕКТ – адносна устойлівая структура разумовых здольнасцяў індывіда.

ІНТЭНСІФІКАЦЫЯ навучальна-выхаваўчага працэсу – павелічэнне напружанасці,прадукцыйнасці працы настаўніка і вучняў,атрыманне жаданых вынікаў у кожную адзінку навучальнага часу.

ІНТЭРВ'ЮІРАВАННЕ – адзін з метадаў навукова-педагагічных даследаванняў,атрыманне неабходнай інфармацыі з дапамогай інтэрв'ю.

ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ – тлумачэнне сэнсу чаго-небудзь па сваім разуменні.

## К

КАЛЕКТЫЎ вучнёўскі – супольнасць дзяцей,якая стварылася на працягу пэўнага часу ў сумеснай дзейнасці, і мае агульную грамадска каштоўную мэту,органы самакіравання і педагагічнае кіраўніцтва.

КАЛЕКТЫЎНАЯ ТВОРЧАЯ СПРАВА (КТС) – арганізацыя і правядзенне сумесных спраў дзяцей не па шаблону,а з выдумкай,фантазіяй,гульнёй,імправізацыяй.

КАНТРОЛЬ – метад выхавання, які ўяўляе сабою назіранне настаўніка за дзейнасцю і паводзінамі вучняў з мэтай пабуджэння іх да выканання ўстаноўленых правіл,патрабаванняў і заданняў.

КАНТРОЛЬ унутрышкольны – адна з формаў кіраўніцтва педагагічным калектывам школы з боку яе адміністрацыі,сістэматычная і мэтанакіраваная праверка працы настаўнікаў.

КАНФАРМІЗМ – прыстасавальніцтва,пасіўнае прыняцце існуючага



парадку рэчаў,пануючых поглядаў.

КАНФЕРЭНЦЫЯ чытачоў у школе – адна з формаў пазакласнай выхаваўчай работы з вучнямі,якая ажыццяўляецца ў выглядзе калектыўнага абмеркавання твораў мастацкай літаратуры.

КАНЦЭНТРЫЗМ у навучанні – прынцып пабудовы школьных навучальных праграм,які характарызуецца тым,што частка навучальнага матэрыялу паўторна,але з рознай ступенню глыбіні вывучаецца на некалькіх ступенях навучання.

КАТЭГОРЫІ педагогікі – найбольш агульнае,фундаментальнае паняцце,якое адлюстроўвае самыя істотныя,заканамерныя сувязі і адносіны педагагічнай рэчаіснасці і пазнання (выхаванне,навучанне,адукацыя,развіццё і інш.)

КЛАСІФІКАЦЫЯ – сістэма супадпарадкаваных паняццяў у якой-небудзь галіне ведаў, адзін з важнейшых сродкаў навуковага пазнання,які дапамагае арыентавацца ў разнастайнасці з'яў.

КЛАСІФІКАЦЫЯ метадаў навучання,выхавання – падзяленне іх на пэўныя групы і падгрупы на той ці іншай падставе (крыніца ведаў, актыўнасць вучняў,характар пазнавальнай дзейнасці школьнікаў і інш.)

КЛАСНА-УРОЧНАЯ СІСТЭМА НАВУЧАННЯ – арганізацыя навучання ў школе,пры якой вучні прыкладна аднаго ўзросту размяркоўваюцца па класах,заняткі вядуцца з пэўным,сталым складам вучняў строга па раскладу і асноўнай формай арганізацыі навучання з'яўляецца урок.Класна-урочная сістэма прыйшла на змену індывідуальнай форме навучання.Некаторыя элементы класна-урочнай сістэмы (пачатак і канец заняткаў па званку,наяўнасць пэўных месц для вучняў – парт і настаўніка – кафедры)сустракаліся ўжо ў мана-

стырскіх школах Сярэднявечча.

Навуковае абгрунтаванне класна-ўрочнай сістэмы даў вялікі чэшскі педагог Ян Амос Каменскі (1592-1670). У Расіі яна ўпершыню пачала прымяняцца ў брацкіх школах Украіны і Беларусі.

КЛАСНЫ кіраўнік – настаўнік, які адказвае за стан навучальна-выхаваўчай працы ў даручаным яму класе. У першыя гады існавання савецкай школы пасады класнага кіраўніка ў школе не было, як не было і саміх класаў – яны называліся групамі. Першае Палажэнне аб класным кіраўніку было зацверджана Наркомам асветы РСФСР у 1934 г.

КОМПЛЕКСНАЯ сістэма навучання – арганізацыя навучання, якая характарызавалася аб'яднаннем праграмнага матэрыялу вакол тэм-комплексаў аб прыродзе, грамадстве, працы чалавека. На пачатку 20-х г. XX ст. шырока прымянялася ў пачатковых школах Бельгіі, Германіі, а таксама ў савецкіх школах.

КОМПЛЕКСНЫ падыход да выхавання – вядучы прынцып выхавання, які адлюстроўвае накіраванасць навучальна-выхаваўчай працы ў школе на цэласнае фарміраванне асобы вучня. Гэты прынцып прадугледжвае неабходнасць адзінства: мэты, задач, метадаў і форм выхавання; уздзеяння на асобу і калектыў; на свядомасць, пачуцці і паводзіны вучняў; сям'і, школы, грамадскасці, а таксама ўсебаковага развіцця асобы: маральнай свядомасці, фізічнай дасканаласці, эстэтычных густаў, інтэлектуальных магчымасцяў і інш.

КРЫТЭРЫЙ – мерка, з дапамогай якой праводзіцца ацэнка якой-небудзь з'явы, класіфікацыя чаго-небудзь.

КУЛЬТУРА духоўная – поўная накіраванасць чалавека на духоўныя каштоўнасці, мера патрабавальнасці да таго, што прапануе жыццё.



КУЛЬТУРА мовы – у тэарэтычным плане – раздзел філалагічнай навукі, які вывучае моўнае жыццё грамадства ў пэўную гістарычную эпоху. У практычным плане пад культурай мовы разумеюць перш за ўсё яе нарматыўнасць, правільнасць, адпавяданне патрабаванням, якія прад'яўляюцца да мовы ў даным грамадстве, майстэрскае валоданне словам.

КУЛЬТУРА паводзін – выкананне маральных прынцыпаў грамадства, уменне знаходзіць правільны тон зносін з людзьмі, дасканаласць учынкаў і дзеянняў чалавека ў розных сферах яго жыцця.

## Л

ЛАБАРАТОРНАЯ РАБОТА, ПРАКТЫКУМ у агульнаадукацыйнай школе – формы арганізацыі навучальнай працы па фізіцы і хіміі, якія выкарыстоўваюцца з мэтай навучыць школьнікаў прымяняць на практыцы атрыманыя веды, уменні і навыкі.

ЛАГАПЕДЫЯ – галіна спецыяльнай педагогікі, якая вывучае асаблівасці працы настаўніка з дзецьмі з парушэннем моўнага апарату, дэфектамі мовы, а таксама шляхі іх папярэджання і пераадолення.

ЛЕКЦЫЯ школьная – адна з формаў арганізацыі навучання, калі настаўнік сістэматычна і паслядоўна выкладае навучальны матэрыял, дапамагае вучням асэнсаваць тую ці іншую праблему, робіць пэўныя абагульненні, вывады.

ЛІНЕЙКА школьная – пастраенне вучняў як адна з арганізацыйных формаў іх выхавання, калі школьнікаў інфармуюць пра важнейшыя рашэнні педкалектыву, вучнёўскага актыву пра падзеі, што адбыліся ў жыцці школы, краіны.

ЛІЦЭЙ – саслоўная прывілеяваная навучальная ўстанова ў царскай Расіі, якая прызначалася для дзяцей дваранскай знаці; ты

агульнаадукацыйнай школы ў Рэспубліцы Беларусь і ў другіх краінах садружнасці.

М

МАГІСТР – вучоная ступень, у сярэднявеччы – выкладчык сямі вольных мастацтваў. У дарэвалюцыйнай Расіі ступень магістра прысвойвалі па ўсіх універсітэцкіх спецыяльнасцях, акрамя медыцынскіх навук. У наш час ступень магістра існуе ва ўніверсітэтах Вялікабрытаніі, ЗША і некаторых другіх краін, мяркуецца, што ў бліжэйшы час яна распаўсюдзіцца і на ВНУ Рэспублікі Беларусь.

МАДЭЛІРАВАННЕ ў педагогіцы – метад даследавання, які заснаваны на пабудове мадэляў рэальна існуючых прадметаў і педагагічных з'яў; у школе і пазашкольных установах – прыкладнае або дакладнае ўзнаўленне якіх-небудзь аб'ектаў (самалётаў, суднаў, пабудоў і інш.) у значна меншым аб'ёме. Мадэліраванне, якім вучні займаюцца на ўроках і ў тэхнічных гуртках, садзейнічае ўмацаванню сувязі тэорыі з практыкай, задавальненню разнабаковых інтарэсаў і развіццю здольнасцяў, паглыбленню ведаў па асновах навук і тэхналогіі апрацоўкі матэрыялаў.

МАЙСТАР граматы – народны настаўнік у Расіі з XIУ да пачатку XIX ст., часцей за ўсё выхадзец з асяроддзя ніжэйшага духавенства (дзяк, дыякан, радзей святар), які займаўся адначасова з 10–12 вучнямі і звычайна абмяжоўваўся элементарнай граматай – вучыў дзяцей пісаць, чытаць, лічыць.

МАЙСТЭРНЯ школьная – спецыяльна абсталяванае памяшканне для навучання школьнікаў апрацоўцы дрэва, металу з дапамогай ручных інструментаў, станкоў, іх мантажу, дэмантажу.

МАЙСТЭРСТВА педагагічнае – высокае ўмельства выхавання і



навучання, заснаванае на любві да дзяцей і сваёй працы, сваім і чужым вопыце, дасканалым валоданні матэрыяламі і методыкай навучання і выхавання.

МАТЫЎ навучання, паводзін – пабуджальная прычына дзеянняў і ўчынкаў чалавека (пазнавальная цікавасць, усведамленне неабходнасці ведаў, жаданне прынесці карысць людзям, боязь пакарання і інш.), якімі вызначаюцца адносіны вучняў да навучання, сваіх паводзін.

МАТЭМАТЫЧНЫ метад даследавання ў педагогіцы – метад колькаснага і структурнага даследавання і апісання ўласцівасцяў і заканамернасцяў педагагічных з'яў з дапамогай колькасных характарыстык (атрымання сярэдніх матэматычных велічынь, каэфіцыента карэляцыі, параўнання статыстычных выбарак і інш.)

МЕРКАВАННЕ – думка, якая ўяўляе сабою сцверджанне або адмаўленне наяўнасці ў прадметах або з'явах некаторых уласцівасцяў або адносін паміж імі.

МЕТАД праектаў – сістэма навучання, пры якой вучні набываюць веды ў ходзе планавання і выканання практычных заданняў-праектаў. Метад праектаў упершыню пачаў прымяняцца ў школах ЗША ў другой палове XIX ст., а ў 20-я гады XX ст. знайшоў прымяненне і ў савецкай школе.

МЕТАД развіцця, навучання, выхавання – шлях, спосаб дасягнення мэт развіцця, навучання, выхавання.

МЕТАДЫЧНАЕ аб'яднанне – адна з арганізацыйных формаў метадычнай працы ў сістэме павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. У метадычныя аб'яднанні (школьныя, куставыя, раённыя) уваходзяць настаўнікі адной і той самай спецыяльнасці, класныя кіраўнікі, яны знаёмяцца з дасягненнямі педагагічнай навукі, перадавым во-

дагагічным вопытам.

МЕТАДЫЧНАЯ работа ў школе - праца настаўнікаў над павышэннем свайго тэарэтычнага і метадычнага ўзроўню,сваёй кваліфікацыі ў форме самастойнага вывучэння навукова-педагагічнай і метадычнай літаратуры,знаёмства з вопытам працы другіх настаўнікаў, падрыхтоўка да атэстацыі,канферэнцый,семінараў,творчых справаздач.

МЕТАДЫЧНАЯ сістэма - мадэль навучальна-выхаваўчага працэсу, якая ўключае ў сябе метады,сродкі,формы,змест навучання і выхавання,а таксама запланаваныя канчатковыя вынікі.

МЕТАДЫЧНЫ савет школы - грамадскі орган кіравання метадычнай дзейнасцю настаўнікаў.

МІЖПРАДМЕТНАЯ сувязь - адна з умоў узбраення вучняў сістэмай ведаў,фарміравання ў іх свядомых адносін да вучобы.

МЫСЛЕННЕ - працэс пазнавальнай дзейнасці індывіда,абагульненае,апасродкаванае пазнанне чалавекам прадметаў і з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці ў іх істотных уласцівасцях,сувязях і адносінах.

МЭТА навучання,выхавання - прагназіруемы,чакаемы канчатковы вынік педагагічнага ўздзеяння на вучня.

## Н

НАВУКОВАСЦЬ навучання - адзін з дыдактычных прынцыпаў, ажыццяўленне якога забяспечвае авалоданне сістэмай навуковых ведаў,знаёмства з сучасным станам развіцця навукі,асновы якой вучні вывучаюць у школе.

НАВУКОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ педагагічнай працы - такая арганізацыя працы педагога,пры якой дасягаецца максімальна высокі вы-



нік з мінімальнымі стратамі часу і сіл.Навуковай арганізацыі педагагічнай працы садзейнічаюць добрае планаванне,выкарыстанне ТСН і іншых сродкаў нагляднасці,улік усякай траты часу,выбар настаўнікам аптымальных метадаў,прыёмаў,формаў працы і г.д.

НАВУЧАННЕ ў школе - узаемазвязаная дзейнасць настаўніка і вучняў,у ходзе якой школьнікі авалодваюць сістэмай ведаў,уменняў і навыкаў,фарміруюцца іх светапогляд,паводзіны і інш.

НАВУЧАННЕ выхоўваючае - адзін з важнейшых дыдактычных прынцыпаў,кіруючыся якім,настаўнік павінен максімальна выкарыстаць выхаваўчыя магчымасці працэсу навучання (змест праграмнага матэрыялу,метады і прыёмы навучання,формы арганізацыі,асоба настаўніка).Гэты дыдактычны прынцып упершыню ўсебакова абгрунтаваў нямецкі педагог І.Гербарт у XIX ст.

НАВУЧАННЕ палітэхнічнае - навучанне,якое дае веды аб галоўных галінах і навуковых прынцыпах вытворчасці і ўзбройвае вучняў агульнатэхнічнымі уменнямі,навыкамі абыходжання з найбольш простымі прыладамі працы,механізмамі,што неабходна для ўдзелу вучняў у вытворчай працы.

НАВУЧАННЕ працоўнае - навучальны прадмет у агульнаадукацыйнай школе,які з'яўляецца важнай састаўной часткай палітэхнічнага навучання і працоўнага выхавання.

НАВУЧАННЕ ўсеагульнае - навучанне ўсіх без выключэння дзяцей пэўнага ўзросту ў агульнаадукацыйнай школе,якое забяспечвае аднолькавы мінімум ведаў.

НАВЫК - дзеянне,якое характарызуецца высокай ступенню засваення,адсутнасцю планамернай,свядомай рэгуляцыі і кантролю;уменне,якое шматразовым паўтарэннем даведзена да аўтаматызму.

НАГЛЯДНАСЦЬ - сродак навучання.Ва умовах школы паспяхова вы-

карыстоўваюцца розныя віды нагляднасці:натуральная(мінералы, кветкі,жывёлы і інш.),аб'ёмная(даючыя мадэлі,чучалы птушак,жывёл),выяўленчая(карціны,малюнкі,ілюстрацыі),сімвалічная(геаграфічныя карты,дыяграмы,схемы),аўдыявізуальная(кіно,тэлебачанне).

Нагляднасць таксама разглядаецца як адзін з важных прынцыпаў дыдактыкі,згодна з якім пазнанне чалавекам аб'ектаў і працэсаў рэчаіснасці адбываецца на аснове іх успрыняцця пры дапамозе органаў пачуццяў і адлюстравання ў сьядомасці.Упершыню навуковае абгрунтаванне гэтаму прынцыпу навучання даў Ян Амос Каменскі ў сваёй кнізе "Вялікая дыдактыка".

НАЗІРАЛЬНАСЦЬ – уменне хутка і правільна заўважаць характэрныя асаблівасці прадметаў і з'яў,у тым ліку і мала прыкметныя знешне,на першы погляд зусім нязначныя.

НАЗІРАННЕ –больш ці менш працяглае,мэтанакіраванае успрыняцце якога-небудзь аб'екта з мэтай прасачыць,як працякае тая ці іншая з'ява,якія змены адбываюцца ў аб'ектах успрыняцця;наглядны метад навучання,які патрабуе ад вучняў мэтанакіраванага назірання за тым ці іншым аб'ектам,абумоўленага дыдактычнымі задачамі,пастаўленымі настаўнікам.

НАКІРАВАНАСЦЬ асобы – якасць,рыса чалавека,якія вызначаюць яго ўнутраныя магчымасці дзейнасці,жыццёвую пазіцыю.

НЕАТАМІЗМ – філасофскае вучэнне,адраджаючае вучэнне сярэдневяковага схаласта Фамы Аквінскага,які абвяшчаў бога першапачаткам і першапрычынай быцця.Важнейшым зыходным пунктам педагагічнай канцэпцыі неатамізма з'яўляецца царкоўнае вучэнне аб дваістасці натуры чалавека,якая,на думку яго прыхільнікаў,складаецца з часовай цялеснай абалонкі і бессмяротнай душы.Таму перш за ўсё трэба клапаціцца пра душу,зместам якой з'яўляецца рэлігійная мараль.



НЕГАТЫВІЗМ –нематываванае,бессэнсоўнае супраціўленне дзіцяці ўздзеянню на яго з боку другіх людзей,імкненне дзейнічаць наперак іх просьбам,парадам,патрабаванням.

П

ПАВОДЗІНЫ чалавека – сістэма учынкаў і дзеянняў,у якіх праяўляюцца ўзаемаадносіны чалавека з другімі людзьмі.

ПАВЫШЭННЕ КВАЛІФІКАЦЫІ настаўнікаў – удасканаленне тэарэтычных ведаў і метадычнай падрыхтоўкі настаўнікаў праз самаадукацыю, факультэты і інстытуты павышэння кваліфікацыі.

ПАДЛЕТКАВЫ ЎЗРОСТ – перыяд развіцця чалавека ад 10 да 16 гадоў,які характарызуецца яго пераходам ад дзяцінства да сталасці.

ПАДРУЧНІК – кніга, у якой змяшчаюцца асновы навукі па пэўнаму навучальнаму прадмету ў адпаведнасці з мэтамі навучання,прадугледжанымі навучальнай праграмай і патрабаваннямі дыдактыкі.

ПАЗНАВАЛЬНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ – уласцівасць асобы інтэнсіўна вывучаць прадметы і з'явы рэчаіснасці з мэтай рэалізацыі набытых ведаў і атрымання новых.

ПАЗНАННЕ – важнейшая форма адлюстравання аб'ектыўнай рэчаіснасці.Пазнанне,накіраванае на суб'ект пазнання,складае спецыяльную яго форму – самапазнанне.

ПАКАРАННЕ – дапаможны метад выхавання,які прымяняецца з мэтай тармажэння непажаданых учынкаў і дзеянняў вучняў і выхавання ў іх дысцыплінаванасці.

ПАЛЕСТРА – гімнастычная школа ў Старажытнай Грэцыі,навучальная ўстанова закрытага тыпу для хлопчыкаў 12-15 гадоў,дзе прадугледжваліся бег,барацьба,скачкі,стральба з лука,плаванне,кідан-

не кап'я,дыска.

ПАМЯЦЬ - замацаванне,захаванне і далейшае ўзнаўленне таго, што было ў мінулым вопыце чалавека ў выглядзе думак,вобразаў, дзеянняў,пачуццяў.Фізіялагічнай асновай памяці з'яўляецца ўтварэнне,захаванне і актуалізацыя часовых нервовых сувязяў у мозгу.

ПАМЯЦЬ зрокавая - разнастайнасць вобразнай памяці,якая зводзіцца да замацавання,захавання і ўзнаўлення зрокавых вобразаў: уяўлення канкрэтных прадметаў і з'яў,іх уласцівасцяў - колеру, формы,велічыні,аб'ёму.

ПАСПЯХОВАСЦЬ - характарыстыка ступені паўнаты і глыбіні,свядомасці і трываласці ведаў,уменняў і навыкаў,засвоеных вучнямі ў адпаведнасці з патрабаваннямі навучальнай праграмы.

ПАТРАБАВАННЕ - метад выхавання,з дапамогай якога ўздзейнічаюць на свядомасць чалавека з мэтай выклікаць,стымуляваць або затармазіць пэўныя ўчынкі і дзеянні.

ПАТРЭБА - аб'ектыўная неабходнасць арганізма ў пэўных умовах, што забяспечваюць яго жыццё і развіццё.Патрэбы бываюць першараднымі(натуральнымі) - патрэбы ў ядзе,адзенні,жыллі і другараднымі,якія ў сваю чаргу падзяляюцца на матэрыяльныя (патрэбы ў прыладах працы,прадметах побыту і інш.) і духоўныя(патрэбы ў ведах, мастацтве і г.д.)

ПАЎТАРЭННЕ ў навучанні - узнаўленне раней засвоеных ведаў, уменняў і навыкаў з мэтай іх удасканалення і прымянення для вырашэння новых пазнавальных задач;спосаб сістэматызацыі ведаў.

ПАЧУЦЦЁ - асобая форма адносін чалавека да з'яў рэчаіснасці, абумоўленых адпаведнасцю або неадпаведнасцю патрэбам чалавека.

ПЕДАГАГІЧНАЯ практыка - састаўная частка навучальнага працэсу ў педагагічных навучальных установах,якая ўяўляе сабою абавязковую пробную практычную дзейнасць студэнтаў,іх працу ў якасці настаўнікаў,класных кіраўнікоў,садзейнічае авалоданню методыкай навучання,прымяненню атрыманых у працэсе вучобы ведаў на практыцы.



ПЕДАГАГІЧНАЯ рада школы - орган калектыўнага кіравання школай, на паседжанні якога вырашаюцца самыя важныя пытанні навучальна-выхаваўчай і гаспадарчай дзейнасці школы. Членамі педагагічнай рады з'яўляюцца ўсе настаўнікі,другія працаўнікі школы,старшыня бацькоўскага камітэту,вучнёўскі актыў,а старшынёй - дырэктар школы.

ПЕДАГАГІЧНАЯ тэорыя - сістэма педагагічных ведаў аб педагагічных з'явах,працэсах,кіраванні імі.

ПЕДАГОГІКА - навука аб мэце,задачах,формах,метадах,заканамернасцях навучання і выхавання дзяцей або дарослых.

ПЕДАГОГІКА антычная - педагагічныя погляды і выхаваўчая практыка,якія склаліся ва ўмовах рабаўладальніцкага ладу ў Старажытнай Грэцыі ў УП ст.да н.э. - У ст.н.э.

ПЕДАГОГІКА аўтарытарная - педагогіка,якая заснавана на сляпым падпарадкаванні вучняў настаўніку,на ўздзеянні на дзяцей мерамі падаўлення.

ПЕДАГОГІКА дзеяння - цячэнне ў педагогіцы канца XIX - пачатку XX ст.у Германіі.Яе заснавальнік В.Лай галоўным прынцыпам навучання і выхавання лічыў дзеянне,выходзячы з чаго ён раіў настаўнікам развіваць усе формы актыўнай дзейнасці вучняў,у працэсе якой яны,на яго думку,усебакова развіваюцца і выхоўваюцца.

ПЕДАГОГІКА народная - галіна эмпірычных педагагічных ведаў, пануючыя ў грамадстве погляды на мэты і сутнасць выхавання.

ПЕДАГОГІКА параўнальная - галіна педагогікі,якая вывучае за-

межныя сістэмы адукацыі, педагагічныя тэорыі пераважна ў параўнальным плане.

ПЕДАГОГІКА спецыяльная (дэфекталогія) – галіна педагогікі, якая вывучае і вырашае праблемы навучання і выхавання анамальных дзяцей: глуханямых (сурдапедагогіка), разумова адсталых (алігафрэнапедагогіка), сляпых (тыфлапедагогіка), з недахопамі мовы (лагапедыя).

ПЕДАГОГІКА супрацоўніцтва – педагагічная дзейнасць, арыентаваная на дэмакратызацыю і гуманізацыю педагагічнага працэсу, добраахвотнае і ўзаемазацікаўленае супрацоўніцтва настаўнікаў і вучняў у вырашэнні задач навучання і выхавання.

ПЕДАГОГІКА эксперыментальная – адзін з напрамкаў у развіцці педагогікі канца XIX – пачатку XX ст., прыхільнікі якога імкнуліся ўсе тэарэтычныя палажэнні пацвярджаць вынікамі эмпірычных назіранняў і спецыяльна арганізаваных эксперыментаў.

ПЕДАЛОГІЯ – механічная сукупнасць псіхалагічных, анатома-фізіялагічных, біялагічных і сацыяльных канцэпцый развіцця дзяцей. Прыхільнікі гэтай тэорыі лічылі спадчыннасць асноўным фактарам разумовага і фізічнага развіцця дзяцей і вызначалі яго ўзровень з дапамогай спецыяльна распрацаваных тэстаў. У Расіі педалогія атрымала распаўсюджанне ў канцы XIX – пачатку XX ст., а ў 1936 г. у былым СССР была забаронена як ілжэнавука.

ПЕДАЦЭНТРЫЗМ – адзін з напрамкаў развіцця педагогікі, які характарызаваўся тым, што змест, арганізацыя і метады навучання вызначаюцца спантаннымі (узнікаючымі з прычыны ўнутраных пабуджэнняў) інтарэсамі і патрэбамі дзяцей, а не сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі і патрэбамі грамадства.

ПЕРАЕМНАСЦЬ у навучанні – устанаўленне неабходных сувязяў і



правільных суадносін паміж састаўнымі часткамі навучальнага прадмета або навучальнымі прадметамі на розных ступенях іх вывучэння; прынцып арганізацыі сістэмы народнай асветы ў Рэспубліцы Беларусь, які патрабуе поўнай сувязі паміж усімі яе звеннямі.

ПЕРАЙМАННЕ – паўтарэнне ўчынкаў і дзеянняў, манеры паводзін другой асобы, узнаўленне ўсяго гэтага ў сваіх паводзінах з большай ці меншай ступенню творчасці. Перайманне для дзяцей – такая ж неабходнасць, як і сама творчасць, яно дае ім магчымасць кампенсаваць недахоп якасцяў, уласцівых тым людзям, з якіх яны бяруць прыклад.

ПЕРАКАНАННЕ – метад выхавання, спосаб уздзеяння на свядомасць выхаванца з мэтай фарміравання устойлівых поглядаў на тыя ці іншыя з'явы, падзеі, факты, учынкі, дзеянні; устойлівы погляд на што-небудзь, заснаваны на глыбокай перакананасці ў яго праўдзівасці.

ПЛАН навучальны (школы) – дзяржаўны дакумент, у якім даецца пералік навучальных прадметаў, якія вывучаюцца ў школе, парадак іх размяшчэння па гадах навучання і вызначана колькасць гадзін, якая адводзіцца на вывучэнне кожнага прадмета ў кожным класе, а таксама вызначана структура навучальнага года – час навучання і канікулы.

ПРАБЛЕМА – складаная пазнавальная задача, рашэнне якой уяўляе поўную тэарэтычную або практычную цікавасць.

ПРАБЛЕМНАЯ сітуацыя – становішча, у якое трапляе чалавек, калі перад ім узнікае складаная пазнавальная задача, якую немагчыма вырашыць з дапамогай вядомых яму спосабаў дзеяння. Праблемная сітуацыя звычайна характарызуецца наяўнасцю элемента навізны, выяўленнем чалавека за мяжу пазнанага ім, калі для вырашэння узнікшай пазнавальнай задачы недастаткова набытых раней ведаў.

ПРАВЕРКА ведаў – састаўная частка працэсу навучання, якая мае сваёй мэтай выяўленне глыбіні, якасці, аб'ёму ведаў, уменняў, навыкаў вучняў, наяўнасць або адсутнасць пэўнай сістэмы ў іх набыцці.

ПРАВІЛЫ ДЛЯ ВУЧНЯЎ – арганізацыйна-метадычны дакумент, які вызначае асноўныя абавязкі і нормы паводзін вучняў у школе і па-за яе межамі.

ПРАГМАТЫЗМ – адно з галоўных цячэнняў ідэалістычнай філасофіі, заснаванай на прынцыпе, згодна з якім каштоўнасць нашых ідэй і пенятцяў цалкам зводзіцца да практычных вынікаў іх прымянення; разнавіднасць тэорыі матэрыяльнай адукацыі, прыхільнікі якой лічаць найбольш эфектыўным метадам навучання дзейнасць вучняў, у ходзе якой яны набываюць пэўныя веды, уменні і навыкі, неабходныя ў жыцці.

ПРАГНАЗІРАВАННЕ – працэс атрымання апярэджваючай інфармацыі аб аб'екце ці з'яве, які абапіраецца на навукова абгрунтаваныя палажэнні і метады.

ПРАГРАМІРАВАНАЕ навучанне – навучанне па аптымальных праграмах з аптымальным кіраваннем працэсам навучання, заснаваючае на засваенні навучальнага матэрыялу невялікімі "порцыямі", "крокамі", лагічна закончанымі адрэзкамі, што забяспечвае трывалую зваротную сувязь пры выкарыстанні праграміраваных машын або дапаможнікаў.

ПРАКТЫКАВАННЕ – шматразовае выкананне разумовых або практычных дзеянняў з мэтай дасканалага авалодання імі або павышэння іх якасці; практычны метад навучання, які выкарыстоўваецца пры фарміраванні навыкаў.

ПРАФАДАПТАЦЫЯ (прафесійная адаптацыя) – паспяховае прыстасаванне чалавека да ўмоў працы ў пэўнай галіне дзейнасці.

ПРАФАДБОР (прафесійны адбор) – адзін са шляхоў прафесійнай



арыентацыі, які заснаваны на выяўленні і ўліку прафесійных схільнасцяў, інтарэсаў і магчымасцяў чалавека.

ПРАФАДУКАЦЫЯ (прафесійная адукацыя) – падрыхтоўка ў навучальных установах спецыялістаў рознага ўзроўню кваліфікацыі для розных галін вытворчасці, навукі, тэхнікі, культуры.

ПРАФАРЫЕНТАЦЫЯ (прафесійная арыентацыя) – сістэматычная, мэтанакіраваная праца школы на падрыхтоўцы вучняў да свядомага выбару прафесіі з улікам іх інтарэсаў, жаданняў, магчымасцяў і патрэб грамадства.

ПРАФАСВЕТА (прафесійная асвета) – адзін з шляхоў прафесійнай арыентацыі, калі вучні атрымліваюць патрэбную інфармацыю пра многія прафесіі, а таксама знаёмяцца з патрэбамі раёна, горада, мястэчка ў кадрах у той ці іншай галіне вытворчасці і сельскай гаспадаркі.

ПРАФЕСІЯНАЛЬНА-ТЭХНІЧНАЯ адукацыя – планамерная, арганізаваная падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых для розных галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

ПРАФКАНСУЛЬТАЦЫЯ (прафесійная кансультацыя) – састаўная частка прафесійна-арыентацыйнай працы школы, якая прадугледжвае аказанне вучням дапамогі ў выбары прафесіі шляхам парад, рэкамендацый з улікам прафесійных інтарэсаў, схільнасцяў і магчымасцяў школьнікаў.

ПРАЦАЗДОЛЬНАСЦЬ – стан чалавека, які характарызуецца ўзроўнем і працягласцю даступных яму намаганняў, неабходных для выканання той ці іншай працы і можа аднаўляцца ў час адпачынку і сну.

ПРАЦЭС навучання – мэтанакіраваная ўзаемазвязаная дзейнасць настаўніка і вучняў, у ходзе якой вучні атрымліваюць сістэму неабходных ведаў, уменняў, навыкаў, фарміруецца іх светапогляд і

паводзіны.

ПРЫЁМ навучання – спосаб дзеяння настаўніка,абумоўлены канкрэтнай сітуацыяй на ўроку,які накіраваны на рэалізацыю таго ці іншага метаду навучання,рашэнне пэўнай пазнавальнай задачы; элемент метаду.

ПРЫНЦЫП навучання,выхавання – такое кіруючае палажэнне,якое вызначае ўвесь працэс навучання,выхавання,усе яго бакі:змест, метады,формы арганізацыі.

Р

РАБОТА пазакласная – састаўная частка навучальна-выхаваўчай працы школы ў выглядзе занятках агульнаадукацыйнага і выхаваўчага характару,якія праводзяцца настаўнікамі не ў навучальны час і якія не прадугледжаны навучальнай праграмай; адна з формаў арганізацыі вольнага часу вучняў,якая спрыяе іх усебаковаму развіццю.

РАБОТА пазашкольная – навучальна-выхаваўчая праца з дзецьмі, якая праводзіцца пазашкольнымі ўстановамі:станцыямі юных натуралістаў,юных тэхнікаў,дзіцячымі спартыўнымі школамі і г.д.

РАЗВІЦЦЁ асобы – шэраг колькасных і якасных змен,якія адбываюцца ў арганізме чалавека на працягу ўсяго яго жыцця,станаўленне чалавека як сацыяльнай істоты.

Развіццё чалавека адбываецца ў трох формах:анатама-фізіялагічнай(павелічэнне вагі,рост арганізма,станаўленне і ўдасканаленне сардэчна-сасудзістай,шкілетна-мускульнай,нервовай і другіх сістэм),псіхічнай(удасканаленне псіхічных працэсаў і уласцівасцяў асобы:адчуванні,успрыняцці,уяўленні,памяць,мысленне і інш.) і сацыяльнай (станаўленне чалавека як сацыяльнай істоты



засваенне ім сацыяльных каштоўнасцяў,установак грамадства,сацыяльнай групы,у якую ён уваходзіць).

РАЗУМЕННЕ – адзін з асноўных відаў складанай разумовай дзейнасці,накіраванай на раскрыццё істотнага ў прадметах і з'явах рэчаіснасці,іх узаемасувязі і прычыннай абумоўленасці.

РАСКЛАД урокаў – дакумент,які вызначае паслядоўнасць правядзення ўрокаў на працягу тыдня.

РУХАЮЧЫЯ СІЛЫ развіцця,выхавання,навучання – гэта ўзнікненне і вырашэнне супярэчнасцей(паміж дамаганнямі асобы і магчымасцямі іх рэалізацыі,паміж магчымасцямі чалавека і новымі патрабаваннямі, якія да яго прад'яўляюцца, паміж свядомасцю і паводзінамі і інш.), а таксама матывы навучання і паводзін.

РЭЖЫМ дня – парадак чаргавання розных відаў дзейнасці і адпачынку на працягу сутак, што мае вялікае значэнне для ўмацавання здароўя і павышэння працаздольнасці чалавека.

РЭЙТЫНГ – дыягнастычны метад даследавання,у аснове якога – выкарыстанне рознабаковых кампетэнтных ацэнак вартасцяў і недахопаў той ці іншай асобы і вызначэнне яе папулярнасці ў калектыве,грамадстве;грамадскай думкі аб вартасці тых ці іншых маральных якасцяў і інш.

РЭПРАДУКТЫЎНЫ МЕТАД навучання – метад, з дапамогай якога настаўнік дае вучням у гатовым выглядзе факты,доказы,паняцці,узор выканання тых ці іншых дзеянняў,а вучні толькі ўзнаўляюць усё гэта.Рэпрадуктыўны метад не спрыяе эфектыўнаму развіццю мыслення школьнікаў,фарміраванню ў іх творчых адносін да працы,самастойнаму пошуку ісціны.

РЭФЛЕКС – рэакцыя арганізма на знешняе або ўнутранае раздраж-

ненне,ажыццяўляемая пры дапамозе нервовай сістэмы.І.А.Паўлаў падзяліў рэфлексы на безумоўныя – прыроджаныя і ўмоўныя –набытыя,якія ўзнікаюць толькі пры пэўных умовах.

РЭФОРМА школьная – пераўтварэнне школьнай сістэмы,якое праводзіцца ў заканадаўчым парадку.

С

САМААДУКАЦЫЯ – адукацыя,якая набываецца па-за навучальнымі установамі шляхам самастойнай працы.

САМААЦЭНКА – здольнасць асобы аб'ектыўна ацэньваць свае магчымасці, асабістыя якасці,поспехі,дасягненні.

САМАВАЛОДАННЕ – асаблівасць валявых паводзін чалавека, ва ўстойлівых формах – валявая рыса характару,якая праяўляецца ва ўменні валодаць сваімі пачуццямі і сваім настроем,ва ўстрыманні ад учынкаў і дзеянняў,якія ўсведамляюцца як непатрэбныя або шкодныя ў адпаведных умовах.

САМАВЫХАВАННЕ – сістэматычная і свядомая дзейнасць чалавека, накіраваная на выпрацоўку і ўдасканаленне сваіх станоўчых якасцяў і пераадоленне адмоўных.

САМАКІРАВАННЕ дзіцячае-актыўны ўдзел дзяцей у кіраванні справамі свайго калектыву.

САМАСВЯДОМАСЦЬ – усведамленне чалавекам самога сябе як грамадскай істоты,сваіх узаемаадносін з акаляючым светам,другімі людзьмі,сваіх дзеянняў і учынкаў,думак і пачуццяў,усёй разнастайнасці якасцяў асобы.

САМАСТОЙНАЯ НАВУЧАЛЬНАЯ ПРАЦА вучняў – навучальная праца,якая выконваецца вучнямі без непасрэднага ўдзелу настаўніка,але па яго заданні ў спецыяльна адведзены для гэтага час.



САМАЎНУШЭННЕ – псіхічнае ўздзеянне чалавека на самога сябе, у выніку чаго ў яго ўзнікаюць пэўны псіхічны стан,пажаданыя адчуванні,пачуцці.

СВЕТАПОГЛЯД – сістэма поглядаў чалавека на акаляючы свет: прыроду,грамадства,самога сябе.

СВЯДОМАСЦЬ-найбольш поўная форма актыўнага адлюстравання рэчаіснасці,разуменне чалавекам акаляючага свету,працэсаў,якія працякаюць у ім,сваіх думак,дзеянняў.

СВЯДОМАСЦЬ І АКТЫЎНАСЦЬ – адзін з прынцыпаў дыдактыкі,які праяўляецца ў разуменні вучнямі вывучаемага матэрыялу,уменні лагічна звязаць яго з папярэднім,адрозніць істотнае ад другараднага.Свядомае засваенне вучнямі праграмнага матэрыялу вызначае іх актыўную пазнавальную дзейнасць.

СІНТЭЗ – лагічны прыём,які ўяўляе сабою аб'яднанне ў цэлае састаўных яго элементаў і прымет.

СІСТЭМА народнай адукацыі – сукупнасць навучальна-выхаваўчых устаноў,якія задавальняюць патрэбы дзяржавы ў падрыхтоўцы адукаваных людзей,кадраў для ўсіх галін прамысловасці і сельскай гаспадаркі,навукі,культуры.

СІСТЭМАТЫЧНАСЦЬ І ПАСЛЯДОЎНАСЦЬ у навучанні – дыдактычны прынцып,які патрабуе засваення ў пэўнай паслядоўнасці ведаў і арыентуе настаўніка разглядаць іх як элемент сістэмы ў межах аднаго прадмета або ўсіх прадметаў,што выкладаюцца ў школе.

СІТУАЦЫЯ экстрэмальная – сітуацыя,якая выходзіць за межы звычайных нормаў.

СКАУТЫЗМ – адзін з напрамкаў дзіцячага і юнацкага руху,галоўная мэта якога – выхаванне адданасці сваёй бацькаўшчыне,ураду, рэлігіі; спецыяльна распрацаваная сістэма выхавання, якая

узнікла у пачатку XX ст. і у наш час атрымала шырокае распаўсюджанне у многіх краінах свету.

СПАДЧЫННАСЦЬ – перадача ад бацькоў да дзяцей пэўных якасцяў і асаблівасцяў, закладзеных у генетычнай праграме дзіцяці: рысы твару, колер скуры, валасоў, задаткі і інш.

СТАНЦЫЯ юных натуралістаў – пазашкольная навучальна-выхаваўчая установа, якая ставіць сваёй мэтай выхаванне ў вучняў цікавасці і любві да прыроды, пашырэнне і паглыбленне ведаў па біялогіі, хіміі, фізіцы, геаграфіі, асновах сельскай гаспадаркі.

СТАНЦЫЯ юных тэхнікаў – пазашкольная навучальна-выхаваўчая установа, якая забяспечвае тэхнічную падрыхтоўку вучняў: мадэляванне, тэхналогію апрацоўкі розных матэрыялаў, кіраванне транспартнымі сродкамі і інш.

СТРУКТУРА урока – сукупнасць узаемазвязаных элементаў урока, забяспечваючых яго цэласнасць і паспяховае вырашэнне навучальна-выхаваўчых задач. Так, структуру камбінаванага урока складаюць такія элементы, як арганізацыя, апытанне, выкладанне новага матэрыялу, паўтарэнне, замацаванне, хатняе заданне. Структура урока вызначаецца яго мэтай, задачамі, узроўнем падрыхтаванасці вучняў.

СУВЯЗЬ тэорыі і практыкі – адзін з важных дыдактычных прынцыпаў, які патрабуе разглядаць тэорыю і практыку як два непарыўна звязаных бакі працэсу пазнання, неабходнасць фарміравання у вучняў умення прымяняць на практыцы атрыманыя у працэсе навучання веды.

СУРДАПЕДАГОГІКА – галіна спецыяльнай педагогікі, якая разглядае пытанні навучання і выхавання глуханямых дзяцей.

СХІЛЬНАСЦЬ – накіраванасць чалавека на заняткі пэўнай дзейнасцю, істотна сказваецца на фарміраванні здольнасцяў да яе.



Т

ТАКТ педагагічны – пачуццё меры ў зносінах з дзецьмі, уменне знайсці правільны падыход да іх, прыняць правільнае рашэнне у самых складаных, у тым ліку і у экстрэмальных, сітуацыях.

ТАЛЕНТ – высокі ўзровень здольнасцяў, які характарызуецца арыгінальнасцю вынікаў працы мастака, вучонага, прадстаўніка любой прафесіі, якая патрабуе творчага падыходу.

ТАРМАЖЭННЕ – адзін з асноўных нервовых працэсаў (супрацьлеглы узбуджэнню), вынікам узнікнення якога з'яўляецца затрымка дзейнасці нервовых цэнтраў або рабочых органаў (залоз, мышцаў і г.д.)

ТВОРЧАСЦЬ – самая высокая форма актыўнасці у самастойнай дзейнасці чалавека.

ТРЫВАЛАСЦЬ ведаў – дыдактычны прынцып, які патрабуе паўтарэння, замацавання, прымянення ведаў на практыцы, якія атрыманы школьнікамі у працэсе навучання.

ТУРЫЗМ дзіцячы – дзейнасць дзяцей, якая непарыўна звязана з краязнаўствам і мае на мэце паглыбленне і пашырэнне ведаў школьнікаў у галіне геаграфіі, гісторыі, прыродазнаўства і іншых навук, умацаванне здароўя і фізічнае развіццё дзяцей.

ТЫФЛАПЕДАГОГІКА – галіна спецыяльнай педагогікі, якая займаецца праблемамі навучання і выхавання дзяцей з парушэннямі або поўнай адсутнасцю зроку.

ТЭЗІСЫ – палажэнні, якія скарочана фармулююць ідэю, асноўную думку лекцыі, даклада, твора, дакумента.

ТЭМПЕРАМЕНТ – характарыстыка індывіда з боку дынамічных асаблівасцяў яго псіхічнай дзейнасці: хуткасці рытму, інтэнсіўнасці псіхічных працэсаў.

ТЭСТ - заданне стандартнай формы,выкананне якога дае магчымасць выявіць наяўнасць або адсутнасць у чалавека здольнасцяў, інтарэсаў,другіх псіхічных характарыстык,а таксама уменняў,навыкаў і г.д.

ТЭОРЫЯ - вышэйшая форма навуковага мыслення,сістэма паняццяў, законаў,якія адлюстроўваюць істотныя ўласцівасці,сувязі і адносіны прадметаў рэчаіснасці.

ТЭХНІКА педагагічная — комплекс ведаў,уменняў і навыкаў,неабходных педагогу для таго, каб эфектыўна прымяняць на практыцы метады і прыёмы педагагічнага ўздзеяння як на асобных вучняў, так і на вучнёўскі калектыў.

ТЭХНІЧНЫЯ СРОДКІ НАВУЧАННЯ (ТСН) - апаратура,прыстасаванні, якія выкарыстоўваюцца ў навучанні з мэтай рэалізацыі дыдактычнага прынцыпа нагляднасці,эканоміі часу настаўніка і вучняў, дасягнення добрых вынікаў.

## У

УВАГА - накіраванасць псіхічнай дзейнасці суб'екта на якінебудзь прадмет або з'яву рэчаіснасці.Увага забяспечвае прадукцыйнасць усякай дзейнасці і можа быць неадвольнай(калі накіраванасць псіхічнага дзеяння на пэўны аб'ект не выклікана пастаянным усведамленнем мэты, не звязана з валявымі намаганнямі,а выклікана сілай раздражнення) і адвольнай(калі накіраванасць псіхічнай дзейнасці на пэўны прадмет выклікана пастаянным усведамленнем мэты).

УЗНАЎЛЕННЕ - працэс памяці,які звязаны з аднаўленнем у ёй таго,што было ў мінулым вопыце чалавека.



УМЕННЕ - рэалізаваныя на практыцы веды,валоданне спосабамі, прыёмамі дзейнасці з улікам правіл,якія ляжаць у яе аснове. Уменні бываюць гнастычныя(уменні кваліфікавана аналізаваць змест і спосабы ўздзеяння на выхаванцаў з улікам іх узроставых і індывідуальных асаблівасцяў);камунікатыўныя(уменні ўваходзіць у кантакт з людзьмі,зносіцца з імі);канструктыўныя(уменні планаваць педагагічную дзейнасць,прадугледжваць яе ход,магчымыя цяжкасці,прадбачыць яе вынікі);арганізатарскія(уменні арганізаваць вучняў на патрэбную справу,каардынаваць іх дзеянні,захапіць іх мэтай дзейнасці).

УНУШЭННЕ -своеасаблівы від псіхічнага ўздзеяння(галоўным чынам славеснага)на чалавека,якое звязана з паніжэннем свядомасці і некрытычным успрыняццем таго, што ўнушана.Пад уздзеяннем унушэння ўзнікаюць уяўленні, якія не адпавядаюць рэальным уражанням.

УПАРТАСЦЬ - адмоўная асаблівасць паводзін чалавека (ва ўстойлівых формах - адмоўная рыса характару),якая праяўляецца ў неабгрунтаваным і нерацыянальным супрацьдзеянні.

УРОК - асноўная форма навучання ў агульнаадукацыйнай школе, лагічна завершаны адрэзак навучальнага працэсу.

УРОК адкрыты - урок,на якім прысутнічаюць настаўнікі і запрошаныя асобы з мэтай вывучэння вопыту выкладання тым ці іншым настаўнікам свайго прадмета.

УСЕБАКОВАЕ РАЗВІЦЦЁ асобы - агульная мэта выхавання,якая рэалізуецца ў вырашэнні канкрэтных яго задач:фарміраванне светапогляду,фізічнай дасканаласці,высокай маральнасці,развіццё духоўных сіл,творчых магчымасцяў і г.д.

УСПРЫНЯЦЦЕ – наглядна-вобразнае адлюстраванне прадметаў і з'яў рэчаіснасці,падзей у свядомасці чалавека,якое ўзнікае пры непасрэдным уздзеянні раздражняльніка на органы пачуццяў суб'екта.

УСТАНОВЫ дашкольныя – установы для грамадскага выхавання дзяцей ранняга і дашкольнага ўзросту(дзіцячыя яслі,сады,спецыяльныя ўстановы для выхавання дзяцей з адхіленнямі ў разумовым або фізічным развіцці,з недахопамі слыху,зроку,мовы або іх поўнай адсутнасцю).

УЧЫНАК – дзеянне чалавека,якое разглядаецца ў яго суадносінах з сацыяльнымі,у тым ліку этычнымі і прававымі нормамі грамадства.

УЯЎЛЕННЕ – чуллівы вобраз прадметаў і з'яў рэчаіснасці,што уздзейнічалі на органы пачуццяў.Адрозніваюць уяўленні памяці – тое,што было ў мінулым вопыце,і уяўленні фантазіі,якія не адпавядаюць яму.

Ф

ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ ў школе – неабавязковыя заняткі,якія арганізуюцца для паглыблення і пашырэння ведаў па пэўных курсах,раздзелах,тэмах або пытаннях у адпаведнасці з жаданнямі і інтарэсамі вучняў.

ФАНАТЭКА школьная – збор магнітафонных і іншых запісаў(спецыяльных,дакументальных,мастацкіх,навучальных),якія выкарыстоўваюцца ў школе ў навучальна-выхаваўчых мэтах.

ФАНТАЗІЯ – складаны псіхічны працэс стварэння новых уяўленняў у выглядзе мары,задум,тэхнічных вынаходніцтваў,навуковых адкрыццяў,новых мастацкіх вобразаў і інш.



ФАРМАЛІЗМ у навучанні – механічнае завучванне зместу навучальнага матэрыялу без дастатковага разумення яго сэнсу,сутнасці, што не дазваляе выкарыстаць атрыманыя веды на практыцы.

ФІЗКУЛЬТУРА лячэбная – прымяненне дазіраваных фізічных практыкаванняў з улікам стану і магчымасцяў вучняў у прафілактычных і лячэбных мэтах.

ФОНАХРЭСТАМАТЫЯ – навучальны дапаможнік,складзены з літаратурных,музычных,дакументальных гуказапісаў па праграме пэўнага навучальнага прадмета.

ФРЭЙДЫЗМ – шырока распаўсюджаная тэорыя паводзін людзей,заснаваная на вучэнні Зігмунда Фрэйда (1856-1939) аб несвядомым. У аснову паводзін чалавека Фрэйд паклаў інстынкт самазахавання (палавы інстынкт).Паколькі сэксуальная цяга,на яго думку, не заўсёды можа быць задаволена ў той форме,у якой яна ўзнікла,то яна трансфармуецца ў творчую,грамадскую,навуковую,спартыўную і іншую дзейнасць чалавека.

Х

ХАРАКТАР – індывідуальна-своеасаблівае злучэнне устойлівых і істотных псіхічных асаблівасцяў (уласцівасцяў,якасцяў) чалавека, што абумоўліваюць яго паводзіны ў пэўных жыццёвых абставінах.

Ц

ЦІКАВАСЦЬ – актыўная пазнавальная накіраванасць чалавека на той ці іншы прадмет або з'яву рэчаіснасці,звязаная звычайна са станоўчымі эмацыянальна афарбаванымі адносінамі да пазнанага аб'екта.

ЦЭЛАСНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ ПРАЦЭС – арганічнае адзінства працэсаў

навучання, выхавання і развіцця.

ЦЭНТРАЛЬНАЯ НЕРВОВАЯ СІСТЭМА – асноўная частка нервовай сістэмы жывёл і чалавека, якая складаецца са скаплення нервовых клетак (нейронаў) і звязваючых іх нервовых шляхоў, яна ўключае галаўны і спінны мозг.

Ш

ШКАЛІРАВАННЕ – колькасны метад навуковага даследавання, які дазваляе выкарыстаць лічбовыя паказчыкі для ацэнкі тых ці іншых педагагічных з'яў.

ШКОЛА базавая – звычайная агульнаадукацыйная школа, замацаваная за педагагічнай навучальнай установай для правядзення педагагічнай практыкі студэнтаў, або за навукова-даследным інстытутам педагогікі для правядзення навукова-доследнай, эксперыментальнай працы па пытаннях навучання і выхавання вучняў.

ШКОЛА брацкая – навучальная ўстанова, існаваўшая ў Еўропе ў ХУ–ХУП ст. Асабліва многа брацкіх школ было на Правабярэжнай Украіне і ў Беларусі, землі якіх у ХУІ–ХУП ст. уваходзілі ў склад Польска-Літоўскай дзяржавы. Яны ствараліся рэлігійна-нацыянальнымі брацтвамі з мэтай захаваць сваю культуру, мову, адукацыю ва ўмовах апалячвання, засілля каталіцкай царквы.

ШКОЛАЗНАЎСТВА – раздзел педагогікі; галіна педагагічнай навукі, якая займаецца даследаваннем зместу і метадаў кіравання сістэмай народнай адукацыі, у тым ліку і агульнаадукацыйнай школай.

ШКОЛА-ІНТЭРНАТ – агульнаадукацыйная школа закрытага тыпу, у якой вучацца і жывуць у першую чаргу дзеці-сіроты, дзеці інвалідаў вайны і працы і інш., якія маюць патрэбу ў дапамозе



дзяржавы. Ёсць таксама школы-інтэрнаты для таленавітых дзяцей у галіне музыкі, выяўленчага мастацтва, навукі, спорту.

ШКОЛА манастырская – навучальная ўстанова ў Расіі і ў Заходняй Еўропе, існаваўшая пры манастырах у сярэднявеччы, у якой, акрамя элементарнай граматы, вучылі дзяцей кнігапіснаму майстэрству.

ШКОЛА падоўжанага дня – агульнаадукацыйная школа, у якой дзеці не толькі вучацца, але і рыхтуюць урокі пад кіраўніцтвам настаўнікаў, адпачываюць.

ШКОЛА перадавога педагагічнага вопыту – агульнаадукацыйная школа, у якой працуюць вопытныя, таленавітыя настаўнікі, здольныя дэманстраваць узоры навучальна-выхаваўчай працы, валодаючыя сакрэтамі педагагічнага майстэрства, чый вопыт заслугоўвае ўвагі, вывучэння і прапаганды.

ШКОЛА спецыяльная – навучальна-выхаваўчая ўстанова закрытага тыпу, прызначаная для ўтрымання і перавыхавання непаўнолетніх правапарушальнікаў; агульнаадукацыйная школа для дзяцей з фізічнымі або разумовымі недахопамі.

ШКОЛА царкоўна-прыходская – пачатковая школа ў дарэвалюцыйнай Расіі, якая ўтрымлівалася на сродкі царкоўных прыходаў.

Э

ЭГАІЗМ – сябелюбства, задавальненне толькі асабістых імкненняў, цікавасцяў, патрэб пры звычайных адносінах да жаданняў і цікавасцяў другіх людзей, калектыву.

ЭГАЦЭНТРЫЗМ – крайняя мера эгаізму, поўнае і абсалютнае грэбаванне думкамі іншых.

ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛІЗМ – адно з сучасных філасофскіх вучэнняў, якое

з пазіцый крайняга індывідуалізму і песімізму разглядае пытанні аб сэнсе жыцця,месцы і ролі чалавека ў грамадстве і інш.

ЭКСКУРСІЯ навучальная - адна з формаў арганізацыі навучальна-выхаваўчай працы ў школе,у аснове якой ляжыць назіранне за рознымі прадметамі і з'явамі ў натуральных,звычайных умовах, што спрые больш глыбокаму засваенню ведаў.

ЭКСПЕРЫМЕНТ педагагічны - навукова пастаўлены вопыт арганізацыі або правядзення навучальна-выхаваўчага працэсу ў адпаведнасці з праграмай эксперыменту ў створаных даследчыкамі і кантралюемых ім умовах.

ЭКСТРАПАЛЯЦЫЯ - спосаб пераносу тэарэтычных ведаў з адной галіны ў другую.

ЭМОЦЫЯ - асобая форма адлюстравання чалавекам рэчаіснасці, канкрэтнае перажыванне,элемент пачуцця.

ЭМПІРЫЧНЫ МЕТАД педагагічнага даследавання - метад даследавання,з дапамогай якога вывучаецца педагагічны вопыт(назіранне, гутарка, інтэрв'юіраванне і інш.)

ЭТЫКА - галіна філасофіі,аб'ектам вывучэння якой з'яўляецца мараль.

ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ навучання,выхавання - такая арганізацыя і методыка правядзення навучання,выхавання,якія дазваляюць забяспечыць глыбіню і трываласць ведаў вучняў,іх пазнавальную актыўнасць,фарміраванне свядомасці,пачуццяў,устойлівых звычак.



А

Активные формы и методы обучения - актыўныя формы і метады навучання.

Б

Базовое образование - базавая адукацыя.

Беседа - гутарка.

Беспризорность детская - беспрытульнасць дзіцячая.

В

Вид обучения - від навучання.

Внеклассная работа - пазакласная работа.

Внешкольная работа - пазашкольная пработa.

Внимание - увага.

Воспитание - выхаванне.

Воспитывающее обучение - выхоўваючае навучанне.

Воспроизведение - узнаўленне.

Восприятие - успрыняцце.

Всеобщее обучение - усеагульнае навучанне.

Г

Гармоническое развитие личности - гарманічнае развіццё асобы.

Группа продлённого дня - група падоўжанага дня.

Гуманизация образования - гуманізацыя адукацыі.

Д

Движущие силы развития,обучения,воспитания - рухаючыя сілы развіцця, навучання,выхавання.

Действие - дзеянне.

Детский сад - дзіцячы сад.
Деятельность человека - дзейнасць чалавека.
Дошкольные учреждения - дашкольныя ўстановы.

Е

Единая трудовая школа - адзіная працоўная школа.

Ж

Желание - жаданне.
Женская гимназия - жаночая гімназія.

З

Закаливание организма - загартоўка арганізма.
Закрепление знаний,умений,навыков - замацаванне ведаў,уменняў, навыкаў.
Заучивание - завучванне.
Знания - веды.
Зрительная память - зрокавая памяць.

И

Игра деловая - гульня дзелавая.
Интерес - цікавасць.
Исследовательский метод обучения - даследчы метад навучання.

К

Классный руководитель - класны кіраўнік.
Коллективное творческое дело(КТД) - калектыўная творчая справа(КТС).
Культура поведения - культура паводзін.
Культура речи -- культура мовы.

Л

Личность - асоба.

М

Мастер грамоты -- майстар граматы.
Мастерская школьная - майстэрня школьная.
Мастерство педагогическое - майстэрства педагагічнае.
Мировоззрение - светапогляд.
Мышление - мысленне.



Н

Наблюдательность - назіральнасць.
Наблюдение - назіранне.
Наказание - пакаранне.
Направленность личности - накіраванасць асобы.
Наследственность - спадчыннасць.
Научная организация педагогического труда - навуковая арганізацыя педагагічнай працы.
Научность обучения - навуковасць навучання.
Нравственное воспитание - маральнае выхаванне.
Нравственное просвещение - маральная асвета.

О

Обобщение - абагульненне.
Общее образование - агульная адукацыя.
Обучение в школе - навучанне ў школе.
Осязание - дотык.
Оценка - адзнака.
Оценка успеваемости - адзнака паспяховасці.

П

Педагогика действия - педагогіка дзеяння.
Педагогика сотрудничества - педагогіка супрацоўніцтва.
Педагогика сравнительная - педагогіка параўнальная.
Педагогический совет школы - педагагічная рада школы.
Перевоспитание - перавыхаванне.
Поведение человека - паводзіны чалавека.
Подражание - пераймание.
Подростковый возраст - падлеткавы ўзрост.
Понимание - разуменне.
Поощрение - заахвочванне.
Поступок - учынак.
Потребность - патрэба.
Представление - уяўленне.
Преемственность - пераемнасць.
Преподавание - выкладанне.
Привычка - звычка.

Принцип обучения - прынцып навучання.

Р

Работоспособность-працаздольнасць.
Расписание уроков - расклад урокаў.
Рассказ - апавяданне.
Родительский комитет школы - бацькоўскі камітэт школы.

С

Самовоспитание - самавыхаванне.
Самодеятельность художественная - самадзейнасць мастацкая.
Самообладание - самавалоданне.
Самообразование - самаадукацыя.
Самосознание - самасвядомасць.
Самоуправление детское —самакіраванне дзіцячае.
Склонность - схільнасць.
Содержание образования - змест адукацыі.
Соединение обучения с производительным трудом - спалучэнне навучання з вытворчай працай.
Сознание - свядомасць.
Способности - здольнасці.
Среда географическая - асяроддзе геаграфічнае.
Суждение - меркаванне.

Т

Творчество - творчасць.
Технические средства обучения(ТСО) - тэхнічныя сродкі навучання (ТСН).
Требование - патрабаванне.
Трудовое воспитание - працоўнае выхаванне.

У

Убеждение - перакананне.
Умозаключение - выснова.
Упражнение - практыкаванне.
Упрямство - упартасць.
Учебник - падручнік.
Учение - вучэнне.



Ф

Фантазия - уяўленне.

Ц

Цель воспитания, обучения - мэта выхавання, навучання.

Ч

Чувство - пачуццё.

Ш

Школоведение - школазнаўства.
Школа продлённого дня - школа падоўжанага дня.

Э

Эгоизм - сябелюбства.